Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 29. Вільня, 7 кастрычніка 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Ціхая вуліца № 4, (альбо Міцкевіча № 15) кват. № 20. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4 — 35, за 1/8 — 20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Аб тактыцы нашых паслоў.

Беларускія паслы ў Сойме, аб'яднаныя ў Беларускім Пасольскім Клюбе, як-ніяк зьяўляюцца прадстаўнікамі Беларускага Народу. Па ліквідацыі Грамады, арышце грамадаўскіх паслоў, на Пасольскі Клюб упаў увесь цяжар рэпрэзэнтацыі беларускага жыхарства ў Польшчы, ў парлямэнце. Ня ўходзячы ў тое, ці сягоньня Беларускі Пасольскі Клюб якраз рэпрэзэнтуе імкненьні і дамаганьні народу, інакш кажучы, ці выяўляе ён волю народу, усё-ж такі, яго сьвятым абавязкам зьяўляецца выкарыстаць усе магчымасьці, каб долю беларускага насельніцтва ў Польшчы палепшыць, каб дабіцца якнайбольшых палёгкаў у галіне культурнай, гаспадарскай і палітычнай. Таму бязустанная опозыцыя да ўсяго і ўсіх ня прыносіць ніякай карысьці. Больш сэнсу мела опозыцыя Грамады, бо праграма яе была збудована на поўнай нэгацыі, згодна з лёзунгам „чым горш, тым лепей“. Пэўна тое „лепей“, якое мела ў рэзультаце наступіць, не для ўсіх прадстаўляецца ў ясных колерах. Таму вось паўтараем, што тактыка беларускага Пасольскага Клюбу павінна розьніцца ад тактыкі б. Грамады. Так кажа здаровы сэнс.

Па траўнёвым пераваротце, на які беларусы таксама мелі вялікія надзеі, Сойм страціў свой рашучы характар у значнай меры на карысьць ураду. Нічога ў гэтым ані дзіўнага ані благога. Для нас, беларусаў, такая пастаноўка справы яшчэ карысьнейшая. Сойм нам нічога, апрача недарэчных языковых законаў і школьных плебісцытаў, ня даў. Урад, адтрымаўшы значныя поўнамоцніцтвы, пачаў прыводзіць да парадку здэзарганізованае дзяржаўнае жыцьцё.

Пачаліся зьмены ў адміністрацыі, школьніцтве і іншых галінах дзяржаўнага жыцьця. Трэба сказаць праўду, што адносіны сучаснага ўраду да нацыянальнага пытаньня спагадлівыя. Ніводзін папярэдні ўрад не зрабіў столькі для разьвязаньня нацыянальнага пытаньня, сколькі зрабіў цяперашні. Далей, справядлівае разьвязаньне нацыянальнага пытаньня ўрад паставіў адной з галоўных сваіх мэтаў. Урад пачаў барацьбу з эндэцыяй, як партыяй, якая, дзякуючы сваёй нацыяналістычна-шовіністычнай праграме ў адносінах да нацыянальных меншасьцяў, зьяўляецца ня толькі нашым ворагам, але адначасна і ворагам дзяржавы. Дзеля якнайхутчэйшага дасягненьня сваіх мэтаў урад пачаў праяўляць сьмеласьць ініцыятывы, не аглядаўся на Сойм, які толькі тармазіў справу. Ня нашае заданьне бараніць урад, ад якога дамагаемся далейшых рэформаў і палёгкаў, належных нам з моцы конституцыі, але трэба прызнаць, што цяперашні ўрад пацыянальнага пытаньня хаця яшчэ ня вырашыў, згодна з нашымі дамаганьнямі, аднак справу з мёртвага пункту зрушыў.

Беларускае Парлямэнцкае Прадстаўніцтва мусіла таксама заняць сваё становішча ў адносінах да ўраду. Беларускі Пасольскі

Клюб знаходзіцца ў опозыцыі да ўраду. Праўда, опозыцыя ніколі не адважыцца выразіць вотум недаверыя ўраду, не таму, каб баялася нейкіх рэпрэсіяў, але таму, што баіцца адказнасьці, якую прышлося-б узяць за ўладу ў дзяржаве. Але вось ад часу да часу эндэцыя стараецца злосна ўкусіць урад. На сэсіі Сойму, якую ўрад адсрочыў на 30 дзён, эндэкі ўнясьлі цэлы рад інтэрпэляцыяў па поваду дзейнасьці ўраду. Між іншым, галоўнае, што закідваюць ураду эндэкі, гэта школьную палітыку ў адносінах да нацыянальных меншасьцяў. Урад увёў украінскую мову ў першых клясах польскіх гімназіяў у Усходняй Галічыне. Міністар асьветы Дабруцкі дапусьціў мовы нацыянальных меншасьцяў у пэдагогічных радах, надпісах у школах, у пасьведчаньнях, пратаколах, пячатках. Адчынены новыя пачатковыя школы. Эндэкі з'арганізавалі ў Львове дэманстрацыю процiў справядлівага вырашаньня справы ўрадам. Паліцыя дэманстрантаў разагнала. Ізноў крык, што ўрад ходаецца з польскасьцяй. Эндэкі ўнясьлі вотум недаверыя міністру асьветы Дабруцкаму. Адсрочка Сойму перашкодзіла разгляду справы. Адно тут характарна. Эндэцыя вядзець барацьбу з урадам насьмерць, усякія мэтоды барацьбы добрыя. Выступае яна процiў ураду за яго нацыянальную палітыку концэсіяў, таксама беларускія паслы выступаюць процiў ураду і знаходзяцца ў адных радох з эндэцыяй. *Вось гэта зьява і характарная і шкодная, і псыхолёгічна незразумелая.*

Опозыцыя, якая-б яна ні была, мусіць быць творчай. Таму, трэба ўмець выкарыстаць усе магчымасьці палепшаньня і справядлівага разьвязаньня беларускага пытаньня. Гэта заданьне беларускіх паслоў. Опозыцыя дзеля опозыцыі—нічога карыснага. Эндэкі, будучы ў опозыцыі, думаюць дайсьці да ўлады. Для нас, беларусаў, як і наагул для ўсіх нацыянальных меншасьцяў і самой дзяржавы, было-б гэта няшчасьцем.

Эндэцыя бачыць у нашых культурных пачынаньнях, ня кажучы аб палітычных, „антыпаньствовасьць". Гляньце на страніцы „Dzieńnika Wileńskiego", там нейкі патолёгічны тып адважыўся пісаць аб цэлым беларускім народзе, як аб народзе бандытаў.

Сягоньня эндэкі шішуць, што „цэлых гадоў трэба будзе, каб шкоды, зробленыя палітыкай уступак на Ўсходніх Землях, выраўняць". (Gazeta Por. War. z 30.IX 27 г.).

Таму зразумела, што ўрады эндэцыі гэта для нас няшчасьце. Таму, трэба шукаць дарог зьбліжэньня з тымі групамі, якія нашыя патрэбы разумеюць, а з эндэцыяй ходаюцца. Ня можна-ж жыць толькі опозыцыямі. Найгорш, калі опозыцыя такая толькі на паказ для нездаволеных масаў. Дзеля гэтага, ня можна нам, здаецца, бяскрытычна варожа адносіцца да ўраду, як такога, а трэба думаць, што будзе далей, які ўрад прыйдзе пасьля? Аб гэтым, як і наагул аб рэальных карысьцях, якія можна асягнуць, трэба памятаць тым, якіх народ абдарыў сваім даверыем.

# З НЕДАЛЁКАГА МІНУЛАГА.

(Гл. № 28 „Бел. Д.").

**Базыль Рагуля.**

На Беларусі я ня быў з 1912 году, калі яшчэ маладым хлапцом выехаў у Расею. З віленскіх беларускіх дзеячоў і паслоў ў Польскі Сойм ніхто ня быў мне асабіста знаёмы, апрача Рагулі, з якім спатыкаўся, як быў малым хлапцом. Памятую яго, яшчэ настаўнікам расейскае школы з бліштастымі гузікамі і з трыма зорачкамі ў пятліцы. З другога боку памятаю яго, як верхавода любчанскіх расейскіх настаўнікаў і чалавека лібэральных перакананьняў. Калісьці, у 1906 г. ён пашыраў „Выборгское воззваніе" і здаецца адсядзеў за гэта пару дзён у наваградзкім вастрозе.

Зусім зразумела, што з Рагуляй мне хацелася пабачыцца, каб праз яго пазнаёміцца з іншымі пасламі і пагаварыць наконта справы, якая мяне цікавіла і якая датычыла лёсаў „Беларускага Пасольскага Клюбу".

У адну з бліжэйшых суботаў, калі, пасьля цяжкое парлямэнцкае „працы", паслы прыяжджаюць ў Вільню, у нэўтральным памешканьні мы і спаткаліся з Рагуляй, як са сваім старым знаёмым. Гэта было якраз тады, калі пасла Тарашкевіча за яго ўгоду з Віленскімі палякамі, якую ён падпісаў разам з дырэктарам беларускае гімназіі Астроўскім, скінулі са старшыні, а на месца Тарашкевіча выбралі Рагулю.

Адным словам, мой стары знаёмы стаў старшынёю Пасольскага Клюбу — першым прадстаўнікам беларусаў у польскім Сойме.

Пра Рагулю шмат цяпер пішуць, шмат яго лаюць. Кажуць, што ён не беларус, што ён расеец, і г. д. Гэта ня зусім так.

Адкідаючы ў бок яго палітычныя здольнасьці, да якіх можна адносіцца вельмі крытычна, мушу, аднак, зазначыць, што гэты чалавек бязумоўна чэсны і прыслужвацца нікому ня любіць. Ён сялянскі-радыкал — быў ім калісьці і ім застаўся. Ён тыповы прадстаўнік тае часткі беларускага сялянства, якое было зрусіфікована расейскаю школаю, прадстаўнік даваенных традыцыяў і навыкаў. Як чалавек, ён бязу-

## Дзесяць гадоў савецкай школы.

(*Лекцыя праф. С. Гэсэна*).

2-га гэтага кастрычніка ў кіно „Гэліос" у Вільні на вышэйазначаную тэму прачытаў больш як 3 гадзінную лекцыю прыехаўшы з-за граніцы вядомы расейскі вучоны і публіцысты праф. С. Гэсэн.

Лектар падзяліў 10-ць гадовую гісторыю бальшавіцкіх экспэрымэнтаў над школаю на тры пэрыяды: І шы пэрыяд, названы ім анарха-камуністычным, ахапляе час руйнацыі старое пастановы школьнае справы ў бышай Расеі, ІІ-гі пэрыяд—пераходны, які пачаўся разам з НЭП'ам, калі бальшавікі ўхапіліся за фабрыкацыю „спэцаў" і ўвялі прафэсіянальную асьвету, нарэшце, ў цяперашні час савецкая школа адыйшла на... старыя пазыцыі: школы дзеляцца на 4-х гадовыя, 7 гадовыя і 9 гадовыя.

За першы пэрыяд бальшавіком удалося толькі выгнаць з школы Закон Божы, ўвясьці сумеснае вучэньне хлопцаў і дзяўчат ува ўсіх тыпах школ ды перамяшаць пэдагогаў, каб ня было лепшых ды горшых пастановак вучэньня ў паасобных школах.

У другім пэрыядзе імкненьне бальшавікоў прышчапіць вучням камуністычную ідэолёгію скончылася правалам.

Лектар зазначыў, што аднаго на ўвесь СССР камісарыяту асьветы няма, і толькі ў галіне асьветы відаць некаторую аўтаномію ў асобных рэспубліках: Украіна, Беларусь, Закаўказьзе, Узьбекістан і Туркменістан. Аднак аўтаномія гэта ці праўдзівей кажучы „фэдэралізм" СССР даволі сьмешны, калі ўзяць пад увагу, што ўсім кіруе самая цэнтралістычная на сьвеце ўлада — камуністычная расейская партыя.

Утопічная задача бальшавікоў пабудаваць адзіную працоўную школу з „комплексным" мэтодам выкладаньня правалілася ў жыцьці, а мэтод гэты даў тое, што, скончыўшы школу ІІ ступені (сярэднюю), моладзь ня ўмела добра пісаць і чытаць, ня ўмела адказаць, пры якім градусе замярзае вада, адказвала, што Маркс быў вучнем Леніна і г. д.

Прадметная сыстэма з савецкай школы была выгнана і комплексны мэтод палягаў на падзеле навукі на тры гэт. званыя *колонки*: праца (у цэнтры), зьлева — прырода і з правага боку *обществоведение*. Практыка паказала, што гэтая *праца* нішто іншае, як бальшавіцкая палітграмата, і прышлося вярнуцца да прадметнай сыстэмы выкладаньня ў чатырохгодках (ніжэйшыя школы), сямёхгодках і дзевяцьгодках (сярэднія шк.).

Адзінае школы ў СССР няма, працоўнае таксама няма.

З 4-х годкі вучню пастуціць няма куды, бо сярэдніх школ не хапае. 4-х годак ёсьць на ўсім Саюзе Сав. Рэспублік 900.000 з $7^1/_2$ мільёнамі вучняў, у сямёхгодках вучняў $1^1/_2$ мільёна, а ў 9 годках толькі $^1/_2$ мільёна. Беднаце школа зусім недаступна.

Пачатковую асьвету (ў чатырохгодках) адтрымлівае толькі 50% дзяцей школьнага веку, г. зн. палова іх.

Дык і агульнае навучаньне ў СССР не дасягнена.

Сялянства, стараючыся даць дзецям навуку, проста ўваходзіць з настаўнікамі ў дагаворныя адносіны і бярэ школу на сваё утрыманьне, але гэтага стыхійнага сялянскага руху бальшавікі баяцца. Бясплатнасьць навукі адыйшла, такім чынам, у мінулае.

Праўда, ёсьць у Маскве на дзяржаўны кошт утрымліваны... кітайскі камуністычны унівэрсытэт; свайму насяленьню СССР даць дармавую школу ня мае сілы.

Лектар проста весяліў сабраную ў вялікай колькасьці публіку вырэзкамі з справаздачаў аб рэвізіі сваіх школ савецкімі ўладамі.

*Прысутны.*

---

моўна сымпатычны, як палітык ён папаў у такую ролю, якая яму была не па сіле, бо ня мог ён, дзякуючы ўсяму свайму складу, з'орыентавацца ў тым, што адбылося за апошнія гады.

Калісьці Польшчы ня было, калісьці беларуская справа ня была актуальнай — усё гэта псыхолёгічна приймаецца прадвеннымі людзьмі, як нейкае зло, з якім трэба вясьці змаганьне...

Рагуля быў прадвеенны радыкал левы, часам лявейшы больш, як трэба, об'ектыўна-ж ён сягоньня кансэрватар і граў і грае да апошняга часу гэту няўдзячную ролю.

Праўда, беларускі нацыянальны рух захапіў троха і яго, бо ён ужо гаварыў пабеларуску, гаварыў слабавата, горай нават чым папольску, але пісаць пабеларуску ўпарта адмаўляўся і здаецца не практыкуе гэтага і сягоньня.

Для мяне зусім ясна было, што адыграць нейкую паважную ролю ў беларускім руху ён ня можа, але можа быць разумна выкарыстаны і пакірованы ў русло агульна-творчага нацыянальнага працэсу. Такое ўражаньне зрабіў на мяне гэты мой стары знаёмы, які ў Сойме рабіў шмат глупстваў і памылак, звальваючы ў адну кучу ўсе польскія групы і партыі.

У адносінах да ўсіх іх ён быў радыкалам, якіх трудна адшукаць, але па сутнасьці сваёй гэты радыкалізм у яго быў бяспрынцыпны, беспадставуны, бо ня было ў яго тае ідэі, якая абмяжоўвае чалавечыя чыны і пакіроўвае іх да пэўнае мэты.

Тым ня менш, Рагуля быў Старшынёю Беларускаге Пасольскага Клюбу, быў популярным у сваёй Любчанскай ваколіцы і з гэтым фактам трэба было лічыцца.

Памятую, што ён са мною быў шчыры, больш шчыры, чымся іншыя, і ён адразу заявіў сябе працiўнікам камуністых, якіх лічыў за новую шляхту, варожую сялянству.

— З мужыкамі ніколі не парву... Мужыком быў і мужыком застануся, — казаў ён мне.

У мінуту філёзофскага настрою ён напалавіну жартам, напалавіну ўсур'ёз залічаў сябе да анархістых... індывідуалістых. Ён быў адзінокі і бясьсільны, як кожны селянін-гаспадар, і адначасна з гэтым

## З жыцьця Наваградчыны.

Усяго толькі пяць месяцаў мінула з таго часу, як апошні раз я быў у Наваградку, але, гледзячы на тыя перамены, якія зайшлі ў настроях тамтэйшага беларускага грамадзянства ў адносінах да прадстаўнікоў мясцовай адміністрацыі, здалося мне, што мінулі ад таго часу цэлыя доўгія гады, — гэтак шмат гэных перамен і гэтак яны глыбокія. Перамены ў настроях ідуць у тым кірунку, што беларускае грамадзянства паволі пачынае верыць у добрую волю прадстаўнікоў мясцовай дзяржаўнай улады, спыніць усе тыя несправядлівасьці і зьдзекі, якія, як цяжкі кашмар, яшчэ да нядаўных часаў апутвалі жыцьцё нашае беларускае вёскі; грамадзянства пачынае адчуваць паволі, што ў галіне культурных, гаспадарчых і нацыянальных сваіх імкненьняў знаходзіць апеку закону, а таксама зразуменьне і падтрыманьне ў мясцовых кіраўнікоў дзяржаўнае ўлады. І калі вёска наша, няпрывыкшая да глыбейшага аналізу палітычных зьявішчаў, пакуль што, інстынктыўна толькі адчувае, што нешта ў жыцьці яе палягчэла, то сьвядомыя інтэлігэнцкія гурткі беларускага грамадзянства ў Наваградку зусім ясна ацэньваюць гэную перамену адносінаў, як першы этап на шляху новага курсу дзяржаўнай палітыкі польскага ўраду ў адносінах да беларускай нацыянальнай меншасьці, і вераць, што на гэтым шляху ўрад не затрымаецца, а пойдзе далей, да поўнай рэалізацыі ўсяго таго, што ў галіне культурнага жыцьця гарантуе беларускаму народу Канстытуцыя Польскае дзяржавы.

Вельмі характарнай ілюстрацыяй для гэных настрояў зьяўляецца цяперашняе жыцьцё найважнейшай у Наваградку нацыянальнай беларускай пляцоўкі — жыцьцё Беларускай Наваградзкай Гімназіі. Прыгнечанага настрою настаўніцкага пэрсаналу, які я бачыў яшчэ пяць месяцаў таму назад, калі настаўнікі дасноўна галадалі ў працягу двух-трох месяцаў, не адтрымліваючы пэнсіі, калі ня было ведама, ці гімназія патрапіць здабыць патрэбныя для свайго істнаваньгрошы, — цяпер няма і сьледу.

Концэсію на гімназію, якая ў сёлетнім годзе адтрымала правы ўрадовых школ для першых трох клясаў, а, па нашым весткам, адтрымае ўрадовыя грошы для трох наступных клясаў уключна з VI-ай клясай — дастаў бацькаўскі камітэт гімназіі.

Камітэт гэты зьяўляецца фактычным і юрыдычным гаспадаром гімназіі і праз сваю управу, у склад якое ўвайшлі М. Чатырка — старшыня, А. Данілевіч — намесьнік старшыні і В. Дзяковіч — пісар, — (усе настаўнікі гімназіі) — кіруе гаспадарчай працай гімназіі. Дзякуючы грашовай дапамозе дзяржаўнай улады, пры гімназіі адчынена бурса, у якой знаходзіць прытулак каля 100 вучняў.

Добрыя адносіны да гімназіі прадстаўнікоў ураду знайшлі одгук з боку бацькоў, дзеці якіх вучацца ў гімназіі. Агульны сход бацькоў, які адбыўся 18 верасьня с. г., ацэньваючы ўсё тое, што ваяводзкія ўлады зрабілі для гімназіі, вынес, аднагалосна прынятую, рэзалюцыю, ў якой выражае падзяку Наваградзкаму ваяводзе пану Бэчковічу за *моральную* апеку і матар'яльную дапамогу гімназіі. Але бацькаўскі камітэт жыве ня толькі сёньняшнім днём, ён хоча стварыць трывалыя варункі для далейшага істнаваньня гімназіі. Найбольш балючай для гімназіі зьяўляецца справа памешканьня гімназіі, якая ўся месьціцца ў чатырох-пяцёх пакоіках, так што месца для адначасных заняткаў ува ўсіх васьмёх клясах не хапае і заняткі часткі клясаў ідуць пасьля абеду. Бацькаўскі камітэт вырашыў гэную справу радыкальна, выносячы пастанову аб будове для гімназіі і бурсы ўласнага будынку.

Не адкладаючы справы надоўга, быў выбраны будаўляны камітэт, які сваім старшынёю вы-

---

і сільны, як селянін, які перажывае зусім лёгка ўсе катастрофы і зьмены, застаючыся самым сабою.

— Кончыцца Сойм, ізноў буду зямлю араць і сеяць і няхай пацалуюць мяне... — любіў ён гаварыць.

Аб расколе Клюбу я гаварыў з ім асьцярожна, памятаю, што Рагуля ўвесь настаражыўся, як можа настаражыцца кожны селянін, калі яго хочуць ашукаць, альбо зацягнуць у нявыгадную камбінацыю.

Калі-ж мною была пададзена думка, што калоць Клюб ня трэба, а толькі арганізаваць соцыялістычную фракцыю, якая-б узяла лейцы ў свае рукі, але ня ня зрывала з клюбам, ён напалавіну згадзіўся.

Знойдзены быў выхад з палажэньня, выхад часовы, кампраміс, які мог-бы адцягнуць на нейкі час тое, што здарылася потым, як непапраўмая памылка.

Трэба прызнаць, што Рагуля вытрымаў сваю пазыцыю да канца і ў „Грамаду" не пайшоў, куды яго бязумоўна прынялі-б ахвотна.

Памятую і яшчэ адзін характарны факт. К.П.З.Б. высоўвала лёзунг аддзяленьня Заходняй Беларусі ад Польшчы і далучэньня да БССР — гэта значыць да Саветаў. Гэты лёзунг пры сучасным палажэньні абсурд, які ня мае і ня можа мець а ніякага рэальнага значэньня. У глыбіні свайго пераканаьня я быў проціў гэтага лёзунгу і калі на аднэй конфэрэнцыі, на якой былі прысутнымі, апрача Рагулі, яшчэ некаторыя паслы *я высунуў ідэю аўтаноміі* — ўсе згадзіліся з гэтым, і было пастаноўлена працаваць пад штандарам гэтае ідэі.

Аднак, ідэя „аўтаноміі" трымалася ў галаве паслоў нядоўга — ня больш двух месяцаў. У траўні 1924 г. ізноў зьявіліся „камісары" і „шышкі" з падпольнае Варшавы і гатовы, зложаны ўжо, проект аўтаноміі быў паложаны пад сукно.

Мушу пасьведчыць, што Базыль Рагуля ў гэтым не вінават, бо на першы плян стаў вылазіць ізноў пасол Тарашкевіч.

(Працяг будзе).

Вільня. *М. Гурын.*

браў жонку Наваградзкага старасты — паню Грынеўскую. І выбраў яе старшынёю не для блізіру, не для якіх-небудзь пабочных мэтаў, а толькі таму, што ў асобе пані Грынеўскай беларускае грамадзянства бачыць чалавека, які лепш, чым хто іншы, патрапіць пакіраваць цяжкай і адказнай работай камітэту.

— Пане рэдактар,—казалі мне настаўнікі,— з боку пані Грынеўскай і з боку пана старасты мы бачым гэтулькі прыхільнасьці для нашае гімназіі і гэткае зразуменьне нашае працы, што, прымаючы пад увагу яшчэ добрую волю і энэргію пані Грынеўскай, якую ўкладае яна ў кожную працу, за якую бярэцца, — лепшага старшыні для нашага камітэту нават выдумаць ня можна.

І камітэт рухаецца.

Ваяводзтва дало на будову трошкі грошай, соймік пляц, бацькі абяцалі даць хурманкі, работнікаў і памагаць, чым хто можа, адным словам, праца кіпіць. Трэба думаць, што хутка на помач будаўлянаму камітэту прыдуць і валасныя самаўрады, ахвяруючы, паводле сваіх сіл і магчымасьці, патрэбныя на будову гімназіі грошы. Зрабіць плян будыніны, паводлуг нашых вестак, камітэт думае даручыць інжынеру - архітэктару Лявону Дубейкоўскаму — беларусу, аднаму з найбольш здольных архітэктароў нашага краю, які адначасна зьяўляецца вялікім знаўцам краёвага стылю.

Гэтак, дзякуючы дружнай працы настаўніцкага пэрсоналу, бацькоў, дзяржаўнай улады, беларускага і польскага грамадзянства паўстанець у Наваградку ў хуткім часе, — яны ў гэтым глыбока пераконаны, — новая будыніна важнай культурна-нацыянальнай пляцоўкі беларускага народу. Гэная будыніна будзе на векавечныя часы жывым сьведкаю таго, што нацыянальная ненавісьць вядзе жыцьцё народаў да развалу і руіны і што наадварот, згоднае супрацоўніцтва братніх народаў зьяўляецца бязупынным варункам для творчай іх працы, якая вывядзе гэныя народы на шлях сьветлае лепшае будучыны.

І ўсім, хто ўнясе сваю цэгліну ў будыніну Беларускай Наваградзкай Гімназіі, усім, хто гэткім чынам узмацуе ідэю брацкага сужыцьця народаў, шлём наша гарачае прывітаньне і шчырае пажаданьне вытрываць у сваёй цяжкай працы, якою з вялікай увагай і спачуцьцём будзе цікавіцца ўсё беларускае грамадзянства, і давясьці яе да канца.

Няхай Бог Вам у гэтым паможа.

*Ф. Умястоўскі*

## Сумнае зьявішча.

Праяжджаючы праз Негневічы, бышы фальварак Шчорсаў, цяпер распарцэляваны паміж асаднікамі, зьвярнуў маю ўвагу новы прыгожы мураваны будынак, скрозь вокны каторага відаць было лаўкі, нейкія бутэлькі і шкляначкі і іншыя навуковыя прылады, адным словам, з першага пагляду можна было распазнаць у ім школу. Сапраўды гэта і была школа, але не абы якая, а гэтак патрэбная для нашага сялянства сельска-гаспадарчая школа.

Праяжджаючы далей, убачыў я добра аброблены, роўны, як стол, пульхны, як вялікодны пірог, палетак зямлі, на ім некалькі пар конікаў, запрэжаных у сеялкі і плугі. Каля іх убачыў

# КВЕТКА.

У дзікай краіне на бясплоднай скале, поўнай шэрага суму і горнага жаху, вырасла, выбуяла прыгожая кветка. Зацьвіла дзіўным пышным цьветам і заківала сваею гордаю галавою.

— Скуль ты?—пыталіся векавечныя дубы.

— Хто ты?—шапталі зьдзіўленыя, павыкручваныя бурамі, бярозкі-карлы.

— Нашто ты тут? — сказаў дзікі чалавек, гледзячы на яе зрокам, поўным пагарды. — Каб на тваім месцы вырас асілак-дуб, ён-бы бараніў маю хату ад бураў, а ты?... толькі месца займаеш.

— Чаго яна пнецца так высока? — дзівілася прызёмная траўка і незразумелым было для яе, чаму кветка ня хоча так, як яна, паўзьці па зямлі.

А кветка, як-бы ня чуючы, разрасталася, і буяла ўсё вышэй і вышэй, аж пэўнага дня дуб горда загаманіў:

— Бясьсільная, куды пнешся?

— Да сонца, — пралепятала кветка.

— Да сонца? — зьдзівіўся дуб, — глянь вось туды: там на небе знак твой сьмяротны. Што ты будзеш рабіць, як устаіш, калі прыдзе бура за бурай і гураган са сьцюжай?

— Барані мяне, закрый мяне! — прасілася.

— Як я магу цябе бараніць, калі ў мяне самога кроў сьцінаецца ў жылах, і сам ня ведаю, ці устаю.

— Сёстры, бярозкі, перастаньце паўзьці, устаньце, засланеце мяне, — малілася кветка.

— На што ты каму патрэбна? — адказалі бярозкі, — нашто мы будзем гінуць за цябе? Схіліся лепш да зямлі і паўзі, як мы.

— Схіліся, схіліся, ня будзь гордаю, а то згінеш,—шаптала ціханька і нагаварвала, маленькая травінка.

Урэшце ўдэрыла магутная бура. Трашчалі і падалі зломаныя векавечныя дубы.

Кветка ад жаху толькі выпрасталася, вецер наляцеў, зламаў яе, скамячыў, сарваў з яе галаў і пакаціў, перакідаючы з скалы на скалу.

І расьсеяла бура семя кветкі ўсюдых на скалы і на будучы год вырасьлі дзесяткі такіх самых кветак.

— Скуль вы? скуль вы?—дзівіліся паўзучыя бярозы і зломаныя асілкі-дубы.

Я разглядаюся па нашай старонцы.

І ў нас дзікая, поўная шэрага суму і адвечнага жаху, скалістая краіна.

Чорныя буры рвуць і ламаюць усё па дарозе, а час родзіць магутныя дубы, паўзучыя карлы-бярозы і прызёмныя, палахлівыя травінкі.

І толькі зродзіцца прыгожая, поўная жыцьця і характва кветка і зацьвіце сваім таёмным цьветам, яе бура зрывае і коціць далёка па скалах, упрочкі... поўная злосьці і ненавісьці ня ведае, што памагаець ёй расьсявацца. А назаўтра, на дзіва ўсім, заместа адной, горда ківаюць галавой, бяз ліку новыя кветкі.

**Язэп Паляшук.**

я настаўніка і гурток вясковай моладзі. У полі йшла навука. Настаўнік нешта тлумачыў сваім вучням. Вучні з вялікай цікаўнасьцю слухалі яго.

Неяк весялей зрабілася на сэрцы, гледзячы на гэны абразок. Думалася: пачатак зроблены, прыдзе час, калі цэлая сетка такіх школ пакрые нашу маці-зямельку і тады ня толькі гэны невялічкі гурток шчасьлівай моладзі пазнае штуку дабываць з зямлі ўсё тое багацьце, якое яна хавае ў нетрах сваіх, а сотні, тысячы, нават дзесяткі тысячаў сялянскіх дзетак будуць мець магчымасьць пазнаць тайніцы прыроды і вырваць з зямлі скарбы, якія цяпер хавае яна ў сабе перад вокам цёмнага хлебароба. І тады зямелькі ўсіх нашых вёсак будуць выглядаць, як гэны школьны палетак — прападзе нядоля і гора, якія цяпер глядзяць з кожнай амаль сялянскай хаты і, заместа сумных песьняў нядолі, пальецца па вёсках нашых вясёлая песьня шчасьця і волі.

Рэчаістнасьць аднак хутка разьвеяла чароўныя думкі.

— Шмат у вас у Наваградзкім павеце гэткіх школаў? — пытаю я праз некалькі гадзін у аднаго з тамтэйшых грамадзкіх дзеячоў.

— Ды не — ўсяго толькі дзьве. Вось у Негневічах, што вы бачылі, дый у Кушалёве. Гэту ў Негневічах адчыніў саюз сельска-гаспадарчых гурткоў. Пры школе ёсьць 30 гэктараў зямлі. Курс навукі трывае 11 месяцаў.

У Кушалёве такі самы тып школы. Кушалёўская школа істнуе на кошт павятовага Сойміку. Колькі яна мае зямлі — ня ведаю.

— А што, бачу, спадабалася Вам наша школа, — казаў далей мой размоўца.

— Што і казаць — школа добрая! А колькі яна грошай каштуе! Пры школе ёсьць інтэрнат, ёсьць стыпэндыі для бяднейшых вучняў, але што-ж, калі школа не спатыкае зразуменьня паміж сялянства. Вадаеце, ня можам набраць камплекту вучняў. Вось ужо заняткі пачаліся, а дагэтуль яшчэ шмат свабодных вакансіяў.

— Ня можа быць! Хіба жартуеце? — ня вытрымаў я. Як гэта, ёсьць свабодныя вакансіі?..

Мне проста верыць не хацелася, не мясьцілася неяк у галаве, каб у сельска-гаспадарчай школе, пабудованай на вёсцы, дзе вокал жывуць хлебаробы, быў недахоп вучняў.

— Кажаце, ня можа быць, а такі гэта праўда. Ня гледзячы на ўсе нашыя стараньні, камплекту вучняў набраць ня можам,

— Чаму-ж гэта? Можа сялянства ня ведае аб гэных школах? — пытаў я свайго размоўцы.

— Як ня ведае: і праз гміны абвяшчалі і праз школы — нічога не памагае, кажуць што малая карысьць з гэтай школы. Дый што там казаць, найлепш самі пагаварэце з сялянамі.

Я гэтак і зрабіў. І вось які я адтрымаў адказ ад аднаго з Шчорсаўскіх гаспадароў.

— Цяпер двароў няма, дык, скончыўшы школу, эканомам служыць ня пойдзеш, а зямлі ў нас мала. На двох-трох маргох, дык мы і бяз школы ўмеем гаспадарыць. Каб гэта якога рукамясла навучылі, каб пражыць было можна—вось гэта іншая справа.

Я зразумеў тады, у чым рэч. У ваколіцах Негневіцкай воласьці страшэннае малазямельле— больш двух-трох маргоў зямлі рэдка які гаспадар мае. Уся зямля сялян-беларусаў у шнурох. Абшары былшай шчорсаўскай эканоміі пабіты на хутары, на якіх сядзяць ваенныя асаднікі. Аб гаспадарцы гэтых ваенных асаднікаў пагаворым іншым разам, а цяпер хочам толькі сказаць, што тамтэйшае беларускае сялянства ня мае ніякай надзеі на павялічэньне сваіх малюсенькіх гаспадарак, бо вокал ні двароў ні вольнай зямлі няма. Праўда, апроч лясоў за Нёманам засталося яшчэ 400 гэктараў зямлі Шчорсаўскай эканоміі, але аб парцэляцыі яе нават самі сяляне ня думаюць, бо, дзякуючы вельмі высокай культуры сельскай гаспадаркі, Шчорсаўская эканомія дае шмат заработку суседнім вёскам. Вось дзеля гэтага браку зямлі і немагчымасьці павялічэньня сваіх гаспадарак у тамтэйшай сялянскай моладзі істнуе імкненьне адарвацца ад зямлі і шукаць іншых заработкаў, нязьвязаных з сельскай гаспадаркай. І вось тутака цэлая драма.

Вядучы сыстэму трохпольнай гаспадаркі на сваіх малых шнурочках і ня ведаючы іншых, больш культурных, спосабаў гаспадаркі, сялянства нашае ня мае магчымасьці дастаць з зямлі столькі дабра, каб магло пракарміцца, а з другога боку, недацэньвае значэньня навукі ў вядзеньні сельскай гаспадаркі і проста ня верыць, што, ўмеючы, можна куды больш дастаць дабра, нават з самага малога кавалка зямлі, чым дастаюць яны цяперака на сваіх шнурках. Вось дзеля чаго сельска-гаспадарчыя школы ня могуць набраць камплекту вучняў.

Гэная недацэнка нашым сялянствам значэньня навукі ў сельскай гаспадарцы — вялікая трагэдыя нашага сялянства.

Мы няраз на старонках „Бел. Дня“ пісалі аб тых шляхох, якія вядуць да паляпшэньня сялянскае долі. Без інтэнсыўнай гаспадаркі, якая ўжо цяперака дае магчымасьць у два-тры разы болей дастаць дабра з зямлі, чым дастаюць яго нашы цёмныя хлебаробы на сваіх шнурках, — няма лепшае долі сялянству. Навучыць інтэнсыўнай гаспадаркі можа і павінна перш за ўсё сельска-гаспадарская школа. І пакуль гэтага наша сялянства не зразумее, пакуль моладзь наша ня будзе гарнуцца да пазнаньня гэнае навукі і сельска-гаспадарчыя школы будуць думаць аб тым, скуль ім дастаць вучняў — да таго часу сялянства наша будзе век прападаць у галіце й нядолі.

Гэта добра разумее польскае сялянства. Там сельска-гаспадарскія школы ня шукаюць вучняў, там вучні з бою бяруць месцы ў школе. Пачынае гэта паволі разумець і наша сялянства, але залішне паволі ідзе гэнае зразуменьне. Сорам нам, што мы гэтак засталіся з-заду за сваімі суседзямі, сорам нам, што трэба пераконваць яшчэ нас у патрэбе і карысьці сельска-гаспадарчай навукі. Гэныя пустыя, вольныя месцы ў сельска-гаспадарчых школах у самым сэрцы Беларусі — гэта-ж сьведкі нашае цемнаты, і запаўненьне іх зьяўляецца нашым нацыянальным гонарам.

Сьвятым абавязкам усяе сьвятлейшае часткі беларускага грамадзянства павінна быць выясьненьне гэнае справы сваім цёмным братом.

*Ф. У.*

**Прачытаўшы газэту, перадай суседу!**

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Неабходны шлях.

Вельмі балючая справа для нашага сялянства – гэта зямля. Наш селянін мае мала зямлі, а зямельная рэформа, што цяпер праводзіцца, мала прыносіць зямлі ў рукі нашага сялянства. Трэба прылажыць усе сілы, каб павялічыць свой кавалак зямлі, але разам з тым трэба пабольшыць і ўраджаі з гэтае зямлі, бо павялічаньне ўраджаю на траціну ужо як-бы збольшвае на траціну тую зямлю, якую маем.

Ураджай можна збольшыць ня толькі на траціну, але можна яго і падвоіць. Патрэбна толькі стараньне, ахвота і гаротны, бедны селянін можа зрабіцца больш багатым. Селянін у Нямеччыне мае ўраджаі большыя ў два-тры разы, як у нас і з двох гэктараў зямлі ён мае столькі, сколькі ў нас з чатырох і больш. Цяперашнія варункі вымагаюць ад нас арганізацыі гаспадаркі на зусім іншых падставах, як тыя, што былі да гэтага часу. Ня можна вясьці гаспадаркі пастарому, бо варункі цяпер зусім зьмяніліся, і навука адчыніла гаспадарцы зусім новыя шляхі. Прыстасоўваючыся да новых варункаў, трэба папершае пераходзіць ад трохпалёўкі да шматпольнае гаспадаркі, дзе галоўнаю мэтаю ёсьць выробляць якнайбольш самае рознае пашы, каб можна было трымаць больш скаціны. Адным словам, прадукаваць ня збожжа, а прадукты большае вартасьці, даражэйшыя: малако і мяса. Гэтыя прадукты ня толькі добра аплачваюць працу, але наагул даюць у гаспадарцы больш даходу, як збожжа. Вельмі важна таксама, што шматпольная гаспадарка дае таксама праз увесь час новыя грошы, тады як за збожжа гаспадар дастае грошы толькі адзін раз у год, увосень, і якраз у той час, калі збожжа мае найменшую цану. Цяпер могуць спытацца: „а што-ж рабіць з малаком?“ На гэта адказ просты: выробляць масла і сыры. Найлепш закладаць коопэратыўныя малачарні, а не выробляць прадуктаў самому, бо коопэратыўная малачарня выробіць найлепшыя прадукты і з меншай колькасьці малака, якія можна даражэй прадаць.

Перабудова гаспадаркі на новы лад, рэч ня зусім простая. Яна вымагае, каб гаспадар пераканаўся думкаю, што мусіць палепшыць сваю долю. Гаспадар мусіць улажыць у галаве плян перабудовы свае гаспадаркі так, каб было якнайбольш пашы.

Зусім зразумела, што за адзін год севаабароту не перабудуем, трэба спачатку пабольшыць пасеў канюшыны, сарадэлі і траваў, і таксама больш садзіць кораньплодаў: бульбы, буракоў, морквы. Пасьля, калі будзе больш скаціны, то будзе больш і гною, і тады можна будзе яшчэ больш садзіць кораньплодаў.

Пераход на пашную гаспадарку ёсьць неабходнае заданьне, і яшчэ ў гэтым годзе гаспадар павінен зрабіць першыя крокі на гэтым шляху. Трэба зьвярнуць увагу і на драбнейшыя галіны свае гаспадаркі, ў першую чаргу на сад і агарод. Сад можа даць вялікі даход, але за ім трэба добра глядзець. Агарод таксама мае ў гаспадарцы вялікае значэньне. Трэба зьвярнуць увагу на кожны кавалачак зямлі, які прападае дарэмна. Там, дзе магчыма, трэба старацца пераходзіць на хутары, каб зьнішчыць цераспалосіцу, каб можна было вясьці сваю гаспадарку незалежна ад суседзяў і больш інтэнсыўна. Вось галоўныя і неабходныя заданьні, якія стаяць перад нашым селянінам. Няхай кожны падумае, ці ісьці яму старымі шляхамі і гараваць, ці новымі шляхамі да лепшае долі, да лепшае будучыны нашага народу.

*П.*

---

## Закладайце коопэратыўныя малачарні.

Вялікае значэньне наагул для сялянства і асабліва для бяднейшых сялян мае трыманьне скаціны, як галоўная галіна гаспадаркі дзеля павялічваньня даходнасьці.

Адным з галоўных варункаў разьвіцьця гаспадаркі, апрача істнаваньня адпаведных прыродных варункаў, ёсьць добра арганізованы збыт сел.-гаспадарскіх прадуктаў, і перш за ўсё прадуктаў малачарскіх, калі ідзе аб гадоўлю скаціны.

Найлепшы спосаб арганізацыі збыту малачарскіх прадуктаў—гэта коопэратыўныя малачарні. Толькі дзякуючы добра з'арганізованай коопэрацыі, напрыклад, у Сібіры, сяляне значна палепшылі свой дабрабыт, і сібірскае масла перад сусьветнаю вайною знаді блізка што на ўсім сьвеце.

І мы бачым там, як адначасна з разьвіцьцём малачарства палепшваецца і дабрабыт.

У апошнія два гады таксама і ў нас закладаецца многа коопэратыўных малачарняў, галоўным чынам, у Навагрудзкім і Віленскім ваяводзтвах, бо сяляне бачаць, якую вялікую карысьць малачарні прыносяць і ахвотна закладаюць новыя малачарні ці далучаюцца да тых, што ўжо істнуюць. Трэба зазначыць, што некаторыя часьці ваяводзтваў Навадрадзкага і Віленскага асабліва надаюцца да разьвіцьця малачарства, дзе ёсьць многа пашы і прыродныя варункі спрыяюць выробе самых розных кармавых расьлін і кораньплодаў. Ужо цяпер можна заўважыць у тых раёнах, дзе працуюць коопэратыўныя малачарні, павялічаньне лічбы кароў і лепшае якасьці, павялічаньне большай прадукцыі малака з большым процантам жыру і павялічаньне засеву кармавых расьлін. Гаспадар ніколі ня выробіць малачарскіх прадуктаў у сябе дома такой якасьці, як выробляюцца ў малачарні, дзе ўжываюцца сэпаратары, халадзільнікі і рознае тэхнічнае прыладзьдзе. Каб выробіць дома масла звычайным вясковым спосабам, трэба больш, як 30 кілёграмаў малака на адзін кілёграм масла, у той час, як у малачарні на адзін кілёграм масла патрэбна ня больш, як 22-24 кілёгр., апрача таго масла будзе лепшае якасьці, яно ня так хутка псуецца і можна яго даражэй прадаць.

Дабрабыт сялянства вельмі залежыць ад разьвіцьця малачарства і трэба нашаму сялянству прылажыць стараньне да разьвіцьця і закладаньня новых коопэратыўных малачарняў.

*П.*

## Як перахоўваць бульбу.

Бульба, гэта жывая часьціна расьліны, якая каб утрымаць сваё жыцьцё дыхае, так як і іншыя расьліны і жывёла.

Дыханьне залежыць перш за ўсё ад тэмпэратуры, чым большая тэмпэратура, тым мацней расьліна дыхае. Праз тое, што расьліна пры дыханьні трацiць часьціну свайго пажыўнога мат'ялу, а гэта тым болей, чым хутчэй расьліна дыхае, то трэба заўсёды перахоўваць бульбу ў такіх варунках, каб дыханьне было слабейшым. Зробім гэта утрыманьнем нявысокае тэмпэратуры. Калі, перахоўваючы бульбу ў пограбе, заўважым, што ў сярэдзіне тэмпэратура значна павялічана, то трэба адчыніць вакно і ахаладзіць паветра, але з другога боку трэба асьцерагацца, каб паветра занадта не ахаладзілася, бо бульба пры тэмпэратуры ніжэйшай, як 1 градус, зусім лёгка мерзьне. Найлепшая тэмпэратура пры перахоўваньні бульбы ёсьць 5 °Ц. Месца, дзе перахоўваем бульбу, мусіць праветрывацца, бо паветра адводзіць вільгаць, якая магла-б прычыніцца да гніцьця.

У пограбе трэба складаць бульбу невялікімі слаямі, каб не сагравалася. Вокны трэба ў цёплыя і сухія дні адчыняць, але калі на дварэ вялікі мароз, то трэба вокны ў пограбе зачыняць саломаю (матамі), каб бульба не памерзла.

Калі бульба ў пограбе не зьмяшчаецца, то перахоўваем яе тады ў ямах ці капцох. Ляпей перахоўваць у капцох, якія робяцца ў месцы сухім, дзе не праходзіць вада з-пад споду. Зямля выбіраецца на глыбіню адной рыдлёўкі, шырыня і глыбіня робіцца ў залежнасьці ад колькасьці бульбы.

Насыпаецца ў капец бульба так высока, як толькі можа ўтрымацца ў такім стане і застаецца на адзін дзень, каб адышла вільгаць. Пасьля накладаецца ўздоўж слой саломы, найлепш жытняе, таўшчынёю прыблізна ў 25 сантымэтраў (чым таўшчэй, тым лепш). Салому гэту вясною можна выкарыстаць на падсьціл. На салому накладаецца невялікі слой зямлі, выбранай пад капец. Ня трэба абсыпаць зямлёю ўсяго капца, на версе трэба пакінуць вузкую палоску неабсыпанай саломы, каб лепш праходзіла паветра. У другой палове кастрычніка прысыпаецца зямлёю больш— на таўшчыню 30-40 сантымэтраў і засыпаецца пры тым бэлька, якая кладзецца праз усю даўжыню і абкладаецца саломаю. Пасьля бэлька вымаецца і застаецца пасьля яе раўчак, які і адводзіць вільгаць. Канцы раўчака затыкаюцца саломаю, каб бульба не памерзла.

Праз месяц можна ізноў капец яшчэ раз накрыць саломаю, бульбянікам, ці лісьцьцём і ізноў абсыпаць зямлёю прыблізна на 20 см. Чым болей дамо саломы, тым менш пасьля можна даць зямлі. Навакол кэпца можна пракапаць раўчак, каб адыходзіла вада. *П.*

---

## Натуральнае раеньне пчолак.

Калі раньняю парою бывае добрая пагода, а вульлі пры гэтым багатыя чарвою і кормам, то вывад дзеткі ідзе вельмі хутка, так што да часу, як зацьвітуць сады, з вульлёў пачынаюць ужо вылятаць натуральныя раі. Гэтыя выпадкі, аднакжа, бываюць вельмі рэдка, а найболей як у нас на Беларусі, раі пачынаюць вылятаць у канцы траўня, альбо ў пачатку чэрвеня.

Блізкасьць раеньня найлепей пазнаць па самых пчолках, якія звычайна ў гэтым часе бываюць надта ажыўленыя, як у нас гаворыцца, кіпяць, г. зн. пчолкі вельмі ахвотна працуюць, цэлымі кучамі ляцяць у поле, а тыя, што не паляцелі, жвава круцяцца ў лятку, як быццам чагось шукаюць, далей, па трутнях і па матачніках, гэтак сама лёгка адгадаць, ці скора даны вулей выпусьціць рой, трэба толькі ўважна прыглядзецца да гнязда і да канцоў вузы ў рамках (у рамовых вульлёх гэта надта лёгка зрабіць, бо гнязда ў нас заўсёды на воку, у калодах-жа трудней). Вось-жа, калі на канцох вузы ёсьць матачнікі і ўжо запячатаваныя, а ў трутнёвых дзірачках ёсьць яечкі, то трэба спадзявацца рою па выхадзе маладое маткі з матачніка, а дзеля гэтага трэба пільнаваць, калі матка выйдзе; найлепей запісаць той дзень, калі быў закладзены матачнік і калі было палажана ў яго яечка, бо-ж тады дзень вываду маткі з матачніка будзе нам загадзя вядомым і мы можам лепей ведаць той час, калі маецца вылятаць рой, бо, як ведаем, матка выходзіць на 15-ты, а найдалей на 18-ты дзень. Вельмі часта дажджлівая альбо халодная пагода прыпыняе раеньне; матачнікі тады бурацца, а маладыя чарвячкі матак забіваюцца і выкідаюцца вон з вульля, і раеньне адкладваецца тады на некалькі тыдняў — часта ў такіх выпадках і зусім ня бывае раеньня. Вылятаньне рою з вульля надта лёгка пазнаць, нават і непрактычнаму пчаляру: пчолкі тады шумна і гучна вылятаюць з вульля ў вялікай колькасьці, падымаюцца цэлаю грамадаю ўверх і кружацца над якім-небудзь дзеравам (калі яно ёсьць на пчальніку) і потым на тым самым дзераве сядаюць цэлаю кучаю, клубком, як у нас называюць, бо, здалёк глядзячы, напраўду можна падумаць, што на дзераве павешаны вялікі чорны клубок. Дык вот-жа гэтага клубка ня трэба чапаць да таго часу, пакуль пчолы ўсе не зьбяруцца і не супакояцца, бо, як мы зачэпім іх уперад, то можам іх раздражніць, і яны ізноў падымуцца ўгару і гатовы, калі матка мае моцныя крыльля, уцячы зусім. Гэта ўжо робіцца ў той час, калі пчолкі самі абяруць сабе якоесьці месца на дзераве.

А я на сваім пчальніку раблю зусім інакш. Тады, як пчолкі якраз вылятаюць з вульля, я бяру раёўню (гэтакую скрынку на тычыне, у сярэдзіне якое ёсьць рамкі з вузаю і якая нацёртая моцна манісаю), падымаю яе ўгару і спакойна трымаю. Пчолкі, чуючы пах манісы, усе ляцяць у гэтую скрынку і, як усе зьбяруцца, здымаю скрынку і маю рой у сваіх руках — астаецца адно: асадзіць яго ў нарыхтованы вулей. Гэткі спосаб лаўленьня раёў ёсьць лепшы тым, што мы ня трацім часу на абіраньне рою на якімсьці высокім дзераве.

Першы рой заўсёды вылятаець з старою маткаю, ў ясны, пагодны дзень, паміж дзесятаю і чацьвёртаю гадзінаю. Калі ў раі ня будзе маткі, як ён увесь зьбярэцца на дзераве, ці ў раёўні, то пчолкі варочаюцца назад у стары вулей. Часам здараецца, хаця вельмі рэдка, што пчолкі зусім ня маюць замеру садзіцца ў адзін рой, а ўсё вышэй і вышэй падымаюцца ўгару і накіроўваюцца зусім уцячы з свайго пчальніку. У такіх выпадках пчаляр павінен спыніць іх, папырскаў-

шы вадою так, каб гэта было падобна да дажджу, альбо, калі няма пад рукою вады, то на месца яе трэба сыпаць пясок угару, калі няма ні першага ні другога, то трэба барабаніць моцна ў якую-нібудзь бляху, ў гэтым выпадку пчолкі ня могуць чуць голасу маткі, які паходзіць ад маханьня крыльлямі. і гэтак сама спыняюцца ў большасьці выпадкаў. Часам здараецца, што на адным і тым-жа пчальніку ў адзін час вылятаюць два раі і садзяцца разам. У такім выпадку пчаляр зусім ня можа разьдзяліць пчолак і дзеля гэтага павінен трактаваць гэтыя два раі, як адзін, ад якога і карысьці будзе болей, бо рой, у якім ёсьць якнайбольш пчолак, скарэй стане на ногі і болей наносіць мёду. Трэба толькі не забыцца, ў такім выпадку, злавіць адну з матак і адсадзіць яе, як запасную, ў матачны вулей, бо-ж дзьве маткі ніколі не паладзяць паміж сабою, а будуць грызьціся, каб адна адну загрызьці, а пры гэтым могуць адна адну пакалечыць і змарнавацца, так, што ў такім выпадку рой зусім можа прапасьць, бо пчолкі бяз маткі жыць ня могуць.

Калі па выхадзе рою, мы ня збурым матачнікаў, а пагода стаіць добрая і калі тыя пчолы, што асталіся ў вульлі, не дадуць маладой матцы забіць усіх матак, што яшчэ знаходзяцца ў матачніках, то тады можна чакаць з гэтага вульля яшчэ рою, г. зв. дружака. Матка, якая стараецца забіць сваіх суперніцаў, часта выдаець слабы, але рэзкі гук. Калі такі гук чуваць, то на другі дзень з гэтага вульля можна чакаць дружака, дзеля гэтага, калі матцы не ўдалося забіць усіх матак, то яна на другі дзень зьбірае частку пчолак і з імі вылятаець з вульля. Вывад дружакоў найчасьцей бывае на дзевяты дзень пасьля першага рою. Дружак выходзіць у якую папала пагоду і ў які папала час дня, тады як першы рой з старою маткаю заўсёды вылятаець у харошую пагоду і днём. Часам выходзяць трэція, чацьвёртыя і пятыя раі, вылятаючы адзін за другім цераз дзень, альбо цераз два дні. Дружакі, калі яны раньнія, могуць яшчэ пчаляру прынясьці некую карысьць, калі-ж позьнія, то іх трэба ня пускаць, зьнішчажаючы матачнікі.

Дружакі заўсёды садзяцца далей ад свайго вульля і вельмі скорыя да ўцяканьня, дзеля таго, што яны вылятаюць з маладою маткаю, якая маець моцныя крыльля і можа далёка ляцець.

Часам, па выхадзе першага раю, гарачка пчолак да раеньня праходзіць; тады яны супакойваюцца, разбураюць матачнікі, прагрызшы іх збоку і забіўшы матак.

*Пчаляр.*

---

# Гаспадарчыя парады.

## Як зярнятамі лубіну карміць жывёлу.

Часта здараецца, што з якой-небудзь прычыны зярняты лубіну не надаюцца да пасеву. Гэткія зярняты звычайна выкідаюцца на гной, у той час, як імі можна карміць жывёлу.

Зярняты лубіну вельмі пажыўны матар'ял для жывёлы, бо маюць у сабе шмат бялкоў, якія як ведама, неабходны для жывёлы, бо з бялкоў складаецца мяса, шэрсьць і г. д. Непрыгатаваныя адпаведна зярняты лубіну немагчыма даваць жывёле, бо лубін мае ў сабе горач, гэтак званыя алькалёіды, якія могуць быць для здароўя жывёлы шкадлівымі і яна яго неахвотна есьць.

Калі-ж гэтыя алькалёіды з зярнят ухіляем, то лубін робіцца добраю і пажыўною пашаю, нягоршаю як, напрыклад, гарох ці боб. Каб выцягцягнуць з лубіну горач, трэба перш за ўсё зярняты раскрышыць у млыне, паставіўшы адпаведна камень, а пасьля намачыць у вадзе. Раскрышаныя зярняты хутчэй намокнуць. Калі-ж лубін добра намокне, тады яго трэба варыць прыблізна паўтары гадзіны. Пасьля ізноў трэба мачыць 2-3 дні, пакуль у ім зусім не застанецца горачы.

Мачыць лепш лубін у цёплай вадзе, якую трэба зьмяняць два разы ў дзень і некалькі разоў у дзень зярняты добра перамешваць. Трэба памятаваць, што ў адзін раз ня трэба мачыць лубіну многа, а колькі патрэбна на некалькі дзён, бо намочаны лубін хутка псуецца. *П.*

## Адлучэньне парасят.

Адлучэньне парасят ад маткі робіцца тады, як парасяты ўжо добра разьвінуліся. Ня трэба адлучаць усіх парасят разам, а спачатку адлучаць самыя лепшыя. Слабейшыя парасяты, якія застаюцца пры матцы, маюць даволі малака і хутка тады папраўляюцца. Ў пярэдніх цыцках у сьвіньні малако жырнейшае, дзеля гэтага парасяты, пакінутыя на гадоўлю, лепш прывучаць да пярэдніх цыцак. Ужо пры матцы трэба парасяты прывучаць есьці. Добра ім спрыяе цеплаватае салодкае малако, зьмешанае з тоўчаным збожжам.

Калі-ж малако зьбіранае, то вельмі добра дадаваць да яго ляннае семя. Карыта мусіць быць заўсёды чыстае, асабліва трэба глядзець за чыстатою, калі даецца малако.

## Ня трымайце масла на сьвятле.

Масла, на якое падаюць праменьні сонца ці наагул, калі яно доўга стаіць на відным месцы, хутка псуецца, робіцца елкім. Калі масла толькі паўгадзіны пастаіць на сонцы, то ўжо траціць свой добры смак. Праз гэта трэба перахоўваць масла ў месцы цёмным і халодным.

## Малако лёгка прыймае ў сябе ўсялякія пахі.

Часта малако яшчэ сьвежае мае няпрыемны смак і пах, таму што ўцягнула ў сябе гэты пах з паветра. Даволі пратрымаць кароткі час малако ў неправетранай сьпіжарні, як яно ўжо страціць смак. Напрыклад, было дасьледжана, што ў адным месцы, дзе ляжала здохлая жывёла, каля якой праходзілі малочныя каровы, малако ад гэтых апошніх так папсавалася, што проста ня можна было яго ўжываць. З гэтае прычыны лепш, асабліва ўлетку, даіць каровы на чыстым паветры.

Сьвежа-ўдоенае малако колькі разоў трэба пераліць з адной судзіны ў другую, каб выветрала, і паставіць яго ў чыстых судзінах у халодным месцы, ці ў сьцюдзёнай вадзе. Судзіны з малаком ня трэба зачыняць шчыльна.

* * *

Разьбегліся сумна пазалочаныя хмары
І сьвецяць, зігцяць яны чырваньню золата,
Быццам дзікай уладаю зморы волата
Змучаныя і кроўю зьлітыя ахвяры.

Панад імі ўжо круцяцца ночы мары
Нейкай сілаю сьляпою сталі-молата
Усё жывое ў пух скрышана і змолата
І абхопліваюць усё чыста цемры-чары.
Але ў гэтай барацьбе няма адчаю
Прамень сонца, цемры сілы пераможа зноў
І будзе ліцца перамогі блеск па Краю.

Гэта сьветласьць волі, ад якой іграе кроў,
І віхрыцца сэрца у чаканьні Маю,
Што пакліча духа да скіданьня кайданоў.

*А. Бартуль.*

# Корэспондэнцыі.

## Спэктакль-вечарына ў вёсцы.

*Халаімаўшчына, Сьверžанскае валасьці, Стаўпецкага пав.*

Аматарскі гурток беларускае моладзі-інтэлігэнцыі, у складзе Міхася Тулейкі, студэнта УСБ у Вільні, Аляксандра Крыта, матурыстага Нясьвяжіскае гімназіі, Аляксандра Калошы і Анатоля Шкутка, матурыстых Радашкаўскае Беларускае гімназіі, Янкі Жабенкі, Янкі Семенякі, Паўла Семенякевіча і Сяргея Атрушкевіча, скончыўшых па 4 клясы гімназіі — ладзіць 25 верасьня г. г. чацьвёрты па чарзе спэктакль-вечарыну ў вёсцы Халаімаўшчыне. Ян Тулейка ахвяраваў свой новы, даволі прасторны, дом пад тэатр. Душа расьце, гледзячы, як наша інтэлігэнцыя, пазакасваўшы рукі працуе над адбудаваньнем сцэны і над упрыгожаньнем дому. Тут няма прынукі, а ні пяршынства. Згода пануе паміж ёю, у выпаўненьні свайго сьвятога абавязку, у змаганьні з цемраю нашае бяздольнае вёскі.

Тымчасам, другая частка беларускае моладзі, якая зьяўляецца той-жа сярмяжнай, цёмнай і бяздольнай, як іншыя іх браты, якая гэтак сама гутарыць заўсёды пабеларуску, але паміма таго лічыць сябе польскаю, на чале з Болесем Іваноўскім, Вінцуком Хлапіцкім і Вінцуком Таўкевічам, шукуецца да нечага зусім другога, гэта знача да авантуры, якую маніцца зрабіць вечарам, каб перашкодзіць нашай інтэлігэнцыі ў яе сьветлай працы. На падмогу да гэтага бярэцца гарэлка, якая цячэ шклянкамі. Чуюцца гэтакія словы: „Ня ісьці, а калі пайсьці — ня браць білетаў, альбо зусім ня даць мужыком, хамам зрабіць вечарыны, ды яшчэ і беларускае, разагнаць іх“. Утаруюць іхнім словам словы бацькоў-цемнякоў, якія лічаць сябе чыстае польскае, шляхоцкае, а ня чорнае мужыцкае, крыві: „Чаго вы пойдзеце на гэтую мужыцкаю вечарыну — гэта-ж „czarna krew“, ды яшчэ і на беларускую, сядзеце лепш удома“. (Так сядзеце, браточкі, бяздольныя—цёмныя, удома на печы, вам Бог з неба долю сашле).

Прыходзіць вечар. На спэктакль зьбіраецца народу, як ніколі; білетэр не ўсьпяваець прадаваць білетаў, чуецца прыказ службовага паліцыянта: „Зачыніць прадажу, а то падушчацца людзі“. Прадажа спыняецца. Увесь дом запоўнены людзьмі, у ём месьціцца болей, як 200 асобаў.

Ужо з самага вечара нашыя авантурнікі ня сьпяць, а зьбіраюцца шкодзіць. Яны садзяцца, са стаячымі білетамі, на сядзячыя месцы. Пад ахранаю паліцыянта іх выводзяць. Чуецца званок і адкрываецца сцэна. Артысты, умела замаскіраваныя, граюць „Суд“ Ул. Галубка, які праходзіць надта ўдала, вырозьніваецца сваімі здольнасьцямі артысты Сяргей Атрушкевіч у ролі Авечкі. Па адыграньні чуваць грамавое „брава“ і адначасна... сьвіст нашых авантурнікаў. Потым пачынаецца дэклямацыя вершаў Янкі Купалы. Кожын з артыстаў дэклямуе па два вершы. На залі ціша; усе з запёртым духам, слухаюць глыбокіх думкаю слоў вялікага нашага песьняра. Некаторыя асаднікі, — яны гэтак сама прышлі, — сядзяць, паспушчаўшы насы і шэпчуць: „polityczne wiersze“. Па кожнай дэклямацыі чуваць грамавое „брава“ і гэтак сама сьвіст авантурнікаў.

Па спэктаклі пачынаюцца скокі. Дырыжыруець надта ўмела, пабеларуску Міхась Тулейка. Авантурнікі ня слухаюць і дырыжыруюць пасвойму. Дырыжэр спыняець музыку. Авантурнікі кідаюцца да яго з кулакамі. Паліцыянт (о! каб не паліцыянт *польскі*, то свае браты, якім хочаш зрабіць дабро, адкрыць вочы на сьвет Божы, пабілі-б цябе каменьнямі) піша на авантурнікаў пратакол. — „Panie, toż białoruskie“, — чуваць словы Болеся Іваноўскага. Маткі-ж Іваноўская і Ганна Хлапіцкая, са словамі: „Гэта-ж мужычая, хамская вечарына, я вам казала ня йсьці“, — гоняць сваіх сыноў-авантурнікаў і дачок дадому.

Мілае ўражаньне па ўсім гэтым. Рукі апускаюцца з роспачы, сум душу агортвае. Тыя самыя сярмяжнікі, тыя самыя бяздольнікі-беларусы, патрапляюць стыдацца і пагарджаць усім сваім родным і дарагім; пагарджаць імем Беларуса, пагарджаць тою моваю роднаю, якою гаварылі іх бацькі, дзяды і прадзеды і якою яны самі заўсёды гавораць. Ці быў на сьвеце дзе гэтакі выпадак? Не! Гэта толькі ў нас на Беларусі, дзякуючы цемры адвечнай, можна бачыць яшчэ гэтакія сумныя абразкі. Ганьба-ж тым і сорам, хто робіць гэта! Ганьба тым і сорам, хто адракаецца і сьмяецца з свайго роднага і дарагога слова! *Біч.*

---

Прыступаючы да арганізацыі зьезду актыўных прыхільнікаў „Беларускага Дня“, Рэдакцыя просіць усіх, хто хоча прыняць удзел у працах зьезду, не выключаючы і тых, каторыя прыслалі свае заявы, прысланць у Рэдакцыю адказ на наступныя пытаньні.

1. Імя і прозьвішча
2. Паштовы адрэс
3. Век
4. Сацыяльны стан (селянін, работнік, інтэлігэнт).
5. Калі селянін, то колькі мае зямлі.
6. Ці належаў і ці належыць да якіх-небудзь палітычных партыяў і грамадзкіх арганізацыяў — (Бел. Інст. Гасп. і Культуры, Т-ва Бел. Школы, Т-ва „Прасьвета“, Земляробскія Гурткі (kółka rolnicze), кооператывы і г. д.).

## Арышты Літоўскіх дзеячоў на Віленшчыне.

У адказ на антыпольскі тэрор Ковенскага Ўраду Вальдэмараса, Польскі Урад пастанавіў пачаць рэпрэсіі на Віленшчыне проціў Літоўскіх дзеячоў. Уночы з 4-га на 5-е кастрычніка ў Вільні арыштованы гэткія асобы: ксёндз Крыштоф Цыбітас, ксёндз Францішак Бяляўскі, ксёндз Раштуціс, ксёндз Пятро Краўяліс, ксёндз Віцэнты Тацкун, Мар'я Гірдзюль, Альжбета Лукашэвіч, Уршуля Стэфановіч, Браніслаў Лешкевіч, Константы Алекса, Мар'я Жукоўская, Пятро Войтуляніс, Павал Карасія. Апрача гэтага, зроблена шмат вобыскаў. На провінцыі заарыштованы. ў Сьвенцянах ксёндз Віцэнты Бобін і ксёндз Віцэнты Крыштофаніс, у павеце Віленска-Троцкім ксёндз Антоні Рукас. Усяго арыштована і пасаджана на Лукішкі 17 літоўскіх дзеячоў. Арышты гэтыя маюць паважнае палітычнае значэньне, *бо могуць прысьпяшыць перагаворы паміж Польскім і Літоўскім урадам у справе ўрэгуляваньня ўсіх спрэчак, якія істнуюць паміж Варшаваю і Коўнам.*

## БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

### Сьледзтва ў справе „Грамады".

Як падаюць віленскія і варшаўскія газэты, у Вільню прыяжджаў міністар справядлівасьці Мэйштовіч у справе працэсу „Грамады". Паводле газэтных інформацыяў судовы працэс „Грамады" адбудзецца ў лютым ці ў сакавіку 1928 г. На лаве абвінавачаных знойдзецца блізка 400 асоб, у тым ліку 4 паслы. Адначасна сьледзтва вядзецца ў беластоцкім, наваградзкім і палескім ваяводзтвах.

### Зьезд Т-ва „Прасьвета".

4 кастрычніка адбыўся зьезд Т-ва „Прасьвета". З дакладам выступаў грам. Вярнікоўскі. Высланы прывітальныя тэлеграмы марш. Пілсудскаму, міністрам Бартэлю і Дабруцкаму. Аб працы Т-ва „Прасьвета" на мясцох і ў Вільні, пакуль што, ніякіх вестак ня маем.

### Арышт адміністратара часопісі „Наша Праца".

5 кастрычніка арыштованы адміністратар „Нашай Працы" грам. Войцік. Грам. Войцік быў засуджаны акружным судом на $1^1/_2$ года вастрогу. Часьць кары ён адсядзеў. Ён апэляваў, але Найвышэйшы Суд адкінуў апэляцыю і Войціка арыштавалі, каб адсядзеў рэшту кары — 4 месяцы.

### Беларуская мова ў Барадзеніцкім касьцёле.

Дэлегацыя ад барадзеніцкіх парахвіян адведала віленскага арцыбіскупа Яблжыкоўскага, які 8 і 9 верасьня быў на візытацыі ў Барадзенічах.

Дэлегацыя прасіла Арцыбіскупа загадаць кс. Мажэйку ізноў увясьці ў Барадзеніцкім касьцёле дадатковыя набажэнствы ў беларускай мове, якія, пасьля адкліканьня з парахвіі кс. Шутовіча, спынены кс. Мажэйкай.

Арцыбіскуп прыняў дэлегацыю вельмі прыхільна і абяцаў споўніць просьбу, калі прынамсі чацьвёртая часьць барадзеніцкіх парахвіян падпіша аб гэным заяву. Абавязак барадзеніцкіх парахвіян парупіцца з подпісамі, якія зьбіраюць сябры дэлегацыі з Цяцерак і Шаўлян.

### Паверка рэзэрвістых.

У часе ад 5 лістапада да 14 сьнежня г. г. на абшары Віленска-Троцкага павету будуць адбывацца кантрольныя сабраньні рэзэрвістых. Сабраньні гэтыя будуць адбывацца ў паасобных пунктах для некалькіх валасьцяў разам.

Ад 5 да 11 лістапада ў Шумску для валасьцяў: Міхаліскай, Варнянскай і Шумскай.

Ад 13 да 23 лістапада ў Нова-Вялейцы для валасьцяў: Рэшанскай, Міцкунскай і Н.-Вялейкі.

Ад 25 лістапада да 1 сьнежня ў Алькеніках для валасьцяў: Алькеніцкай, Каняўскай, Аранскай і Рудомінскай.

Ад 3 да 7 сьнежня ў Салечніках для валасьцяў: Салечніцкай і Тургельскай.

Ад 9 да 14 сьнежня ў Падбярэзьзі для валасьцяў: Мэйшагольскай, Падбярэзкай і Няменчынскай.

## Апошнія навіны.

**Літва.** Ў Літве ня толькі пануе тэрор адносна да тых, хто ня згодзіцца з фашыстоўскім урадам Вальдэмараса. У апошні час літоўскі ўрад вядзець страшэнную барацьбу з польскай школай у Літве. У гэтым годзе не адчынена там ніводная польская школа. Дзесяткі польскіх настаўнікаў арыштована і пасаджана ў концэнтрацыйны лагер у Варнях, дзе ссылаюцца палітычныя праступнікі. Пасаджаныя ў Варнях польскія настаўнікі прыслалі ў Вільню пісьмо, ў якім просяць зьвярнуць увагу цэлага сьвету на тыя зьдзекі, якіх даконваець над школай польскай у Літве ўрад Вальдэмараса. Педагогі ў пісьме пішуць: „Толькі за тое, что мы вучылі не на літоўскай мове, што мы польскім дзецям прышчэплівалі традыцыі польска-літоўскай дружбы, нас пазбавілі грамадзкіх правоў і асабістай свабоды. З намі абходзяцца горш, чым з сабакамі".

Палітыкай нячуваных гвалтаў далёка не заедзеш.

**Расея.** Прэзыдыум Выканаўчага Камітэту Камінтэрну пастанавіў выключыць з ліку сяброў галоўнай улады Камітэрну Троцкага, Вуёвіча і іншых. Адначасна дадзены выясьненьні, чаму да такой суровай пастановы дайшло. Троцкаму і яго кампаніі закідаецца, што яны стараліся разьбіць еднасьць камуністычнай партыі, стварыць новую партыю і залажыць новы чацьвёрты інтэрнацыянал.

— У Ленінградзе разьлілася рака Нева і заліла ніжнія часьці места. Падчас аўтамабільнае катастрофы, якая мела месца каля места Верхнеудзін-

ску згінуў расейскі гэн. Гален. Гэнэрал Гален вяртаўся з Кітаю, дзе ён адыгрываў паважную ролю ў камуністычным кітайскім руху.

**Нямеччына**. Цэлая Нямеччына ўрачыста абходзіла 80-годзьдзе ўрадзінаў прэзыдэнта Гіндэнбурга. Гіндэнбург адтрымаў 20.000 тэлеграмаў. Урачыстае абходжаньне ўрадзінаў Гіндэнбурга сьведчыць аб вялікіх уплывах, якімі цешыцца Гіндэнбург сярод імпэрыялістычна-манархічных сфэраў. Падставы дэмакратычнага і рэспубліканскага ладу ў Нямеччыне моцна падмінованы штодзень растучымі імпэрыялістычна-манархічнымі імкненьнямі. Такі абарот справаў вельмі небясьпечны для спакойнага жыцьця народаў і дзяржаваў Эўропы.

**Польшча**. У Варшаву прыехаў нованазначаны савецкі пасол у Польшчы Багамолаў.

— Выканаўчы Камітэт П. П. С. пастанавіў выключыць з партыі міністра Е. Марачэўскага, за тое, што той увайшоў у ўрад марш. Пілсудскага, а дзеля гэтага прынёс шкоду работніцкім масам. Выключэньне Марачэўскага, які быў выдатным сябром партыі і адным з яе тварцоў, выклікала вялікае ўражаньне. Сябра партыі Голувко, цяперашні начальнік Усходняга Аддзелу ў Мін. Замежных Справаў, солідарызуючыся з палітычнымі паглядамі мін. Марачэўскага, выступіў з партыі. Процію выключэньня запратэставаў Явароўскі — старшыня Варшаўскай Мястовай Рады. На провінцыі таксама падымаецца опозыцыя процію кіруючых органаў партыі. Словам, зарысоўваецца разлом у П. П. С.

— Урад вядзе перагаворы з амэрыканскімі прадстаўнікамі фінансавых сфэраў у справе адтрыманьня 70 мільёнаў даляраў пазыкі. Ёсьць надзея, што пазыку Польшча адтрымае.

— Выкрыта ў Львове друкарня, ў якой друкаваліся ананімныя праклямацыі ў справе гэн. Загурскага. У праклямацыі пісалася, быццам Загурскага ў Варшаве забілі. Аказалася, што праклямацыю друкавалі і пашыралі эндэкі з лагеру „Вялікай Польшчы“.

## Аб усім патроху.

**Якія трэба мець у хаце лякарствы.**

*Валер'янавыя каплі* — пры болі ў жываце, пасьля гістэрыкі, слабасьці 15-20 капель, дзецям 8-10.

*Гарчычнікі* — пры галаўным болі прыкладаць да патыліцы. Калі прастуда і сухі кашаль — на грудзі. Калі вялікая жара — да лытак. Як зрабіць: размолатае гарчычнае насеньне мяшаецца з мукой і вадой, як каша, намазваецца на анучку і кладзецца на скуру, пакуль апошняя не пачырванее.

*Гофманскія каплі* — калі слабасьць, гістэрыка, болі ў жываце, нудота, ваніты. Дарослым—10-15, дзецям—2-6 капель.

*Ёдная настойка* — мазаць скуру, калі баліць, коле ў бок, або ў грудзі, пры прастудзе.

*Каплі дацкага караля* — пры сухім кашлі 15-20 капель дарослым, 5-10 капель дзецям, па некалькі разоў у дзень.

*Рыцына* — вольніць жывот. Дарасламу 1½ лыжкі, дзецям 1-2 гарбатных лыжкі.

*Лаўрова-вішнёвыя каплі* — супакойваюць пры біцьці сэрца, нэрвовым узбуджэньні, спалоху, гістэрыцы. Дарослым 15-20 капель, дзецям па ўзросту, але ня больш як 10 капель.

*Нашатырны сьпірт* — нюхаць пры чадзе, самленьні, катары, а калі атруцішся сьпіртам, дык у сярэдзіну 10 капель на шклянку вады.

*Павараная соль* — паласкаць горла і нос (пры катары). У сярэдзіну па палавіне гарбатнай лыжкі пры кровахарканьні.

*Саліцылавы натр* — для паласканьня (адна гарбатная лыжка на шклянку вады) горла, рота.

### ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Селяніну з Баранавіцкага пав.** Прышлеце свой дакладны адрэс і далей пішэце аб жыцьці ў Ваўкавыскім павеце.



Рэдактар-выдавец **Ф. Умястоўскі**. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3.